# Літаратурны Дадатак

УЛАДЗІМЕР ДУДЗІЦКІ

## Вязанка новых вершаў

### ДАТЫ І ІКСЫ

Юрку Віцьбічу

Пакідаючы попел, узялі адно:
лусту хлеба і пляшку кляновага соку.
І як зморкі палёў засланілі відно —
прыкацілася песьня з дарогаў далёкіх...

Галасіла, расла, калаціла абшар
і стагнала ад крыўды над шчасьцем разьбітым...
Гэтак стогне, гаворыцы, зямная душа,
як плянэты, бывае, зьлятаюць з арбітаў

і шчапаюцца напал, імчацца на згін
у халодным сусьвеце бяскрайнім разьміне...
Дзе-ж рунеюць шуканыня людзкія берагі?
Дзе шукальнікаў доля скупая пакіне?

На акрайцах зямель негасьцінных, а мо'...
пазяхаючых лавай дзікунскіх абтоках,
каб прыцьміла суровасьць ганебным кляймом
лусту хлеба і пляшку кляновага соку?...

І прыспалі у процьмах жахлівых гарбы
вострасьпіных абвалаў, маўклівых, бы сьфінксы,
жоўтатварыя цені рабоў і рабынь,
пакідаючы нашчадкам даты і іксы?..

Не гавораць вятры плачу тускнай зары,
што скрывавіла сэрца аб гострыя дзіды,
дзе спыняюцца сны: ля каралявых рыф,
ці на грудзях шчасьлівай у снох Атлянтыды...
**Вэнэцуэля, 31. 12. 52 г.**

### СПРЫТНЫЯ ЖАРТЫ

Сонца, важкое і вельмі чырвонае, вечарам
смутак зямлі пакідала зь нежаданьнем упартым, —
нібы крывёй аблілі белы твар чалавечаю,
кажучы:
«Гляньце на нашыя спрытныя жарты —
квецікі сьціплыя... Ягадкі, моцна налітыя
сокам ружовым, зблізяцца... Зьнішчацца формы і масьці»...
Неба чарнела. І хмары дзіравымі сітамі
зоры расьсейвалі, з громам самім каб ня ўпасьці.
Нам-жа нялёгка было на душы: нябывалая
зьява благое нешта сьвету й людзтву варажыла...
Ейная сіла — магутная — гнула і звала нас
стацца бясстрашнымі... Скоўвала сочыва жылаў.
Потым...
з крывёю і потам хвалі прынесенай
полымя прагнае хлынула ў цёплыя покуці
хатаў... Ружовыя квецікі страшнага месіва,
ягадкі — моўчкі глядзелі на сонца упокаце...
**Вэнэцуэля, 31. 12. 1952 г.**

### НІ МАНІСТАЎ НІ ЗОРАЎ

Я адзін ля вакна у суворай сяджу камяніцы,
а гадзіна другая начы, — ані шуму, ні шэлесту лісьця...
Толькі месяц, свавольнік, каб сіні нябесная напіцца,
із-за хмаркі, вандроўніцы сьвету, імкнуўся употайкі выйсьці.

Я адзін ля вакна. Каля сьценаў зыбнуліся цені —
адзіноты і суму пакутнага звыклыя, блізкія госьці, —
расплыліся і зьніклі у пругкім зялёным мігценьні,
і ў нямой цішыні нятрывалыя нейчыя хруснулі косьці...

*

Я-ж адзін ля акна... Скамянелі у позяху ськівіц —
сутарэньняў — набраклыя жаху сьмяротнага чорныя мязі...
...«Да сустрэчы... Бывай... Ня зьнішчальныя душы людзкія...
І ніколі й нідзе голас нашай крыві не памрэ й не завязьне».

Я-ж адзін... Каля крат патанулі у мляўкасьці стомы
нятрывалыя думак пякучых пярэстыя тонкія ніці...
І грымелі, як звон, у мурох словы дзіўныя: «Хто мы?..» —
Ды маўчалі муры, быццам гром той у сэрца іх стрэламі выцяў.

*

...Расьцьвіталі сады. Вецер пошчакам скроні пакратаў:
на чаўнох залатых выплывалі асілкі з-за хваляў агністых...
Частавалі і рукі сьцiскалі, бы роднаму брату,
і да ног дыямантаў, цудоўных, як сонца, складалі маністы...

На далонях зазьзяў нявыказны, як сполах зарніцы,
цудадзейны вагонь, потым полымем стаўся адразу гарачым...
На калені упаў, каб той сіле хоць раз памаліцца,
але хорам хрустальны паўстаў і раптоўна жаданьні зьніначыў...

*

За бясєдным сталом заліваліся песьнямі гусьлі, —
не змаўкалі ад хмелю далёкіх заморскіх краінаў музыкі.
А як роскат прыціх і у хораме зморкі вячэрнія згусьлі, —
адплывалі чаўны, асыпаючы зорамі сьлед свой вялікі...

«Дзе-ж вы, сёстры, браты, засмучоная бедная маці?..
Я-ж з маленства такі з вамі шчыры і сэрцам вам заўжды аддany...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
...Зазьвінелі замкі. Ні маністаў, ні зораў...
Прысуд і кайданы...

### КАБ ХОЦЬ РАЗ УСЬМІХНУЛАСЯ ШЧАСЬЦЕ

Каб ня рукі, а крылы магутныя меў, —
узмахнуў-бы я крыламі... Вышай,
у надзем'е крутое, — як сэрцу на ўме, —
дзе блакіт неба зорамі вышыт,
узьляцеў-бы і гора тугое зямлі
у бяздоньне, раскрытае насьцеж,
паміж хмараў набраклых у песьняў разьліў,
каб хоць раз усьміхнулася шчасьце;
каб у грудзі — да сэрца — з павевам вясны
уліліся гарачыя радасьці хвалі,
каб мае расьцьвілі ўсе найлепшыя сны,
што, прысьніўшыся, сыпяць, як і спалі...
Ды ня крылы, а цела нямыя кускі —
рукі — цяжка узьняць і пакратаць,
і ня цьветам, а пылам зялезнай лускі
асыпаюць душу Марыінскія краты...

(Заканчэньне на 5-ай балоне)

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## *Качулка*

(Апавяданьне)

**Ад рэдакцыі. На адзначэньне 36-х угодкаў сьмерці вялікага нашага паэты Максіма Багдановіча, што спаўняюцца 25-га траўня сёлета, друкуем тут адно з мала ведамых апавяданьняў нябожчыка — «Качулка». Беларускі тэкст гэтага апавяданьня не захаваўся, ён аднаўляецца тут упяршыню з тэксту расейскага, зьмешчанага ў томе I акадэмічнага выданьня твораў пісьменьніка (б. б. 422-427). Апавяданьне мае, відаць, аўтабіяграфічны характар, ды тонкасьцяй псыхалёгічнага рысунку, праўдзівасьцяй і напружанасьцяй належыць да лепшых рэчаў нестылізацыйнае прозы Багдановіча.**

*

Гэтае вялікоднае ночы Васілька прыйшоў з царквы дамоў усхваляваны, рашчулены й шчасьлівы. Праўда, гэтаксама чуліся і ўсе хатнія — і мама, і брацітка Сяргейка, і нянька Вульляна, ды Васілька меў на гэта й адмысловыя прычыны. Пачалося ад таго, што сустрэўшыся зь ім у Кірылы й Мэтода (гэтак звалася гімназіяльная царква) настаўнік — «матэматык» прыдакляраваў перавесьці яго ў другую клясу без экзаміну, узяўшы ад яго слова займацца. Значыцца, Васілька ўжо бадай другаклясьнік. Пасьля, калі ён выйшаў з аўтара з талерачкай, Зося паклала яму срыбную манэтку, папрасіла рэшты й вельмі міла зачырванелася, дастаўшы яе загадзя прызапашанымі навюсенькімі капеечкамі; гэта-ж уважалася за знак «далікатных пачуцьцяў». Нарэшце, хрыстосваючыся ў царкве з Васількам, цёця Таця дастала з кошычка й падаравала яму яечка — «качулку» — зусім блізу што круглае, няначы мечык. Вось дзе будзе ўдача, калі ён заўтра выйдзе зь ёй качаць яйкі!

І цяпер, калі Васілька, лежучы ў пасьцелі й засынаючы, праз дрэмку ўспамінаў ласкавую цемнеч вялікоднае ночы, магутны, але мяккі гуд вялікага звону, вясёлы пераэвон меншых, радаснае пяяньне, агнялёты, што з трэскам узьлёталі ды, праблiскацеўшы калярыстымі агнямі, рассыпаліся ў вышыні, дзівоснае палыханьне чырвонага бэнгальскага агню вакол белае царквы, зьнізанае загатлівымі лямпкамі, — яму ўсё ўспамнілася, ды ніяк прыпомніцца не магло яшчэ нешта радаснае й прыемнае. «Ага, качулка!» — мільганула нарэшце ў яго ў галаве — і з гэтай думкай ён заснуў.

А нараньні Васілька быў ужо на суседнім панадворку, правы бераг якога, падыходзячы да саду, пахона спушчаўся спадам на абодвы бакі, дзеля чаго сюды мала ня з усяе вуліцы зьбіралася малеча качаць яйкі. Дзень задаўся сонечны, пагодны, і панадворкам на сонейку ўжо тулялася колькі грудкоў дзятвы, — хто ў лёгенькім палітончыку наросхліст, а хто й проста ў уніформным кульку ці каляровай кашулі, — вядучы тымчасам гутаркі пра нязвычайныя якасьці прызначаных качаць яёк.

— Восьдзека ў мяне яечка, дык яечка! Проста бітка! Тупаносенькае.

— Сам ты, браце, тупаносенькі. Ты глянь, што ў яго за шалупіна? Як стукнецца аб другое — тутака тваёй бітцы й канцы. Напэўнечкі разаб'ецца. А во ў майго шалупіна — як у какоснага гарэха! Ты памацай, якое шурпатае.
чаць мечыкам на поўным коне — па

— А я летась, памятаю, як пачаў качэсьць яёк узапар выкочваў. Во й Андрук бачыў, ня дасьць схлусіць. Праўда-ж?

Але Андрук, круткі, чарнявы хлапчына, не адказваючы, паварочваеца й крычыць:

— Пачынаць, ці што?

— Пачынаць! Чотавацца! Чотавацца!

Хлопцы стаюць у круг. Чотуе ўсё той-жа Андрук, страх акалічных садоў і прызнаны верхавод (як кажацца, «завадатай») усялякіх гульняў. Торкаючы пачародна кажнаму ў грудзі пальцам, ён адрывіста мармыча:

— Коціцца яблычак каля гароду;
Хто яго пяройме — будзь за вайводу.
— Шышла выйшла,
Радзівон — ідзі вон!

Тыя, каму дастаецца качаць у ліку першых, куксяцца; было-б выгадней біць пасьля, калі на коне назьбіраецца больш яёк. Таму ўсе ўважна сочаць, каб Андрук не змахляваў. Нарэшце, яму дакучае мымрыць адны й тыя словы, і ён пачынае на новы лад:

— Паміж намі, малайцамі...
Хтось адзін вялікі боўць.
Раз, два, тры...

Але тутака Андрук зацінаецца: ён бачыць, што апошняе слова мусіць прыпасьці на яго. І пад усіхны сьмех, Васілька дакончвае чотаваньне:

— Гэта мабыць ты...

Далей нейкі гімназісьцюк чотуе словамі з лацінскага правіла, уложанага вершам:

Нарэшце, усе «перачотаваліся», даўгою рысаю па зямлі адзначаны «кон», і гульня пачалася. Ціха пакацілася з узгорачку першае яечка, пачало выпісваць пяткаю закруцістую дугавіну, закалыхалася на адным месцы й стала. Наступны гулец выбраў адпаведнае вагою й формаю яечка, нацэліў ды выпусьціў яго з пальцаў пад чыйсьці выгук:

— Бі, ды прабі!

— А ты не кажы пад руку.

Выбухае сьмех: выявілася, што гулец спопырску пусьціў яечка пяткаю нятуды, і яно цяпер закруціла ад свае мэты ў другі канец панадворку. Коціцца яшчэ яечка, і яшчэ, і яшчэ — і няўзабаве яны яскравымі плямамі пярэсьцяцца па ўсім спадзе панадворку, чысьценькія, бліскучыя, усялякіх колераў: чырвоныя, сінія, жоўтыя, зялёныя...

Васількава качулка абуджае ўва ўсіх і зайздрасьць і захапленьне: ціха калыхаючыся з боку на бок, гладка йдзець яна, ня выпісваючы, як іншыя яйкі, пяткаю дугавіны, а ўвесь час коцячыся простаю лініяй, ды стукае ў нацемленае жоўтае яечка. Васілька зь перамож-

(Заканчэньне на 6-ай балоне)

АНДРЭЙ МРЫЙ

## Запіскі Самсона Самасуя

(Працяг)

Тав. Сом ледзьве ўсьміхнуўся і зьвярнуўся да мяне:

— Якога вы пагляду адносна гэтага?

— У мяне будуць такія дадаткі і зьмены да сказанага тав. Какоцькам, — сказаў я. — Неабходна яшчэ зусім пазбавіць сьвіньняў права паказвацца на вуліцы. Бяспрытульных валачобнікаў заганяць на выканкомскі двор і браць па 1 р. за эгзэмпляр, калі знойдзецца ўласьнік жывёлы. Апрача гэтага, неабходна зарэгістраваць у 3-дзённы тэрмін усіх сабак і кошак і гэтым даць магчымасьць статорганам ведаць лік сабачага і кацінага насяленьня ў мэтах экспартных магчымасьцяў.

Старшыня зірнуў на мяне і забарабаніў пальцамі.

— Урэшце, — сказаў я, міліцыі неабходна завастрыць увагу і на такім факце: на вёсцы зьявіліся хлапцы, нават камсамольцы, якія таўкуцца ў народзе ды запісваюць стары быт. У гэтым няма выстарчаючай плянавасьці. Запісваюць усё, што пад руку пападзе — песьні, прыказкі, забабоны і ўсякае непатрэбнае глупства. Небходна, каб міліцыя мела за гэтым нагляд і дазваляла гэта рабіць толькі тым, у каго будзе ад кульаддзелу паперка.

Тав. Сом гучна засьмяяўся і сказаў:

— Вашыя дадаткі й зьмены яшчэ рана ўносіць. А наконт вашых, — сказаў ён, зьвярнуўшыся да начміла, — пакуль што патурбуйцеся аб тратуварах, ліхтарох ды забрукаваньні вуліцы. Усё іншае кіньце.

Мяне гэта задзівіла.

А каровы, а сьвіньні, сабакі? — падумаў я. — Ніякай культуры. Навет дарогі ня ўступаюць. Поўнае роўнапраўе зь людзьмі!

### III. СУВЯЗЬ МАЦНЕЕ

Як скончылася праца ў выканкоме, я самую пільную ўвагу зьвярнуў на тое, каб ісьці дадому, разам з Крэйнай. У дачыненьнях да яе я меў пэўную мэтавую ўстаноўку. Я трымаў курс бліжэй пазнаёміцца зь ёю.

Ідучы па вуліцы, я загаварыў зь ёю ў самых вытрыманых тонах. Я жаліўся ёй, што новаму чалавеку вельмі цяжка наладзіць жыцьцё ў мястэчку, і прасіў яе параіць мне што-небудзь добрае ў гэтым кірунку.

Яна ўважліва слухала мяне, а я ў свой голас уліў усю пяшчотнасьць і мужчынскае зладзейства, наколькі мог. Яна спачувальна паставілася да мяне: пачала апавядаць пра мястэчка, пра тутэйшых людзей, іх звычаі, думкі, плёткі, забавы. Мы ня прыкмецілі, як падышлі да яе кватэры.

Я ўжо хацеў разьвітацца зь ёю, але яна параіла мне кватэру тут-жа, у доме, дзе жыла яна.

Даю фактычную даведку, што такі зварот справы вельмі ўзьвесяліў мяне, бо відавочным зрабілася, што я пачаў весьці на яе правільную атаку і адразу для мяне вызначыўся шэраг дасягненьняў. Вызначыліся й шляхі далейшага разьвіцьця нашых узаемаадносін: кажны дзень, жывучы побач зь ёю, я павінен паступова апрацоўваць яе думку наконт правільнасьці й натуральнасьці маей асноўнай вытворчай лініі.

Ідучы ад Крэйны ў заежджы дом, я быў у такім узьнятым настроі, што адным махам пераскочыў на рынку шырокую яміну з гразнай вадой. Гэта выклікала нязвычайнае задзіўленьне хлапчукоў, якія бегалі тут. Некаторыя зь іх паспрабавалі быць маімі пасьлядоўцамі, але, ня гледзячы на свой юнацкі запал і спрытнасьць, сьвістарэзнуліся ў самае балота пад сьмех сваіх таварышаў. Я пашоў далей, а ўсьлед мне глядзелі з захапленьнем вочы хлапчукоў.

Праз два дні я перавёз на новую кватэру свае «прычындалы».
Мне вельмі добра спалася ў тую першую ноч, і сьніў я Крэйну.
Быццам сядзеў я з Крэйнай у садзіку, і яна зрабіла мне прапанову пайсьці зь ёю на Лютнянскі шлях. Зразумела, я прызнаў гэту прапанову адпавядаючай сучаснаму моманту і прыняў удзел у прыродна-геаграфічнай экскурсіі.

Па дарозе, калі з нашага вока схаваліся местачковыя будынкі, я мякка ўзяў яе пад пашкі і мы пашлі шчыльна прыціснуўшыся адзін да другога.

Потым быў пералесак і на лагчынах шмат кветак, блакітных, белых, ружовых, і мы зрывалі іх. А потым... Ах, які жаль, якая згуба, што гэта было толькі ў сьне!..

Калі я абудзіўся, была ўжо 9-ая гадзіна раніцы. Я салодка пацягнуўся, перажываючы прыемны сон.

У суседнім пакоі чутны былі лёгкія крокі Крэйны. Я падумаў: напэўна яна стаіць перад люстэркам і глядзіць, не наглядзіцца на сябе. Магчыма, думае, што ў гэтым глухім мястэчку яна, канешне, самая прыгожая, маладая і прывабная дзяўчына.

Не! Яна, мабыць, ніколі і ня думае пра гэта, затое я добра ведаю, што ніводная дзяўчына ня мае такога сьвежага, беларужовага твару, як у Крэйны, такіх глыбокіх, не стандартызаваных, таемных вачэй, такога спрунжыністага, як у п'яўкі, роту. Уся яе постаць, зграбная, умяркавана мясёная, запальвае мяне, напаўняе кроў ліхаманачным агнём, абяцае вар'ятна-гарачыя пяшчоты, саракаградуснае шалёнства.

Што мне рабіць? Уся мая фізычная структура адчувае, што першачарговым заданьнем будзе заваяваць яе сымпатыі і спагаднасьць і потым ужо дабівацца практычных вынікаў у гэтым кірунку.

Я ляжу на ложку, ня хочацца паварушыцца. Прыслухоўваюся да сваіх палкіх мараў, якія сваім зьместам маюць выключна яе, непараўнальную Крэйну. О, што-б сказала мая маці, каб даведалася, як Крэйначка закруціла галаву яе сыну? Што скажа маці, калі сын ажэніцца з Крэйнай? А бацька?..

Думаючы над гэтым, чую, што ў суседні пакой увайшла перапісчыца выканкому Зоя Люсарэнка. Я пазнаю яе па голасе, мэлёдычным, як у жалейкі. Яна таварышка з Крэйнай.

Зоя квола, паветрана, як птушачка, лётае і пяе. Здаецца, падзьме вецярок — і дзяўчыны няма.

Учора я гаварыў з судзьдзёю пра мясцовых дзяўчат. Судзьдзя — той самы філёзаф Торба, аб якім я пісаў раней. Дык ён сказаў мне наконт Зоі:

— Аднаднёўка, міраж. Няма мяса, няма фізіялягічнай базы. Дакранешся, сарвеш кветку і нічога больш няма!

# Whiteruthenia ці Byelorussia?

(Заканчэньне з 5-ай балоны)

іншых, тарнуюць у сваіх працах толькі Whiteruthenia. Ня рэдка гэты тэрмін сустракаем і ў беларусаведаў іншых краінаў Захаду. Характэрна вельмі, што ў выдадзеным нядаўна ў ЗДА Фордаўскім Фондам адрысары арганізацыяў нацыянальнасьцяў з абшару СССР Беларусы падаюцца пад назовам Whiteruthenian.

Пашырэньне тэрміну Whiteruthenia ідзе ці праз самастойнае глыбейшае навуковае вывучэньне пытаньня ды сьведамасьць сутнасьці справы (як. напр., у заўсёды вельмі дакладных ды прэцызыйных нямецкіх навукоўцаў), ці праз уплыў беларускай навуковай працы з пары наццэмаўшчыны (Інбелкульту ды БАН), ці праз палітычную працу ў сваю пару дзяржаўных дыпляматычных прадстаўніцтваў БНР, якія перадусім тэрміналёгію Whiteruthenia, ужывалі, ці ў канцы праз тую частку паваеннай беларускай эміграцыі, якая гэты акурат назоў прапагуе.

Цікава будзе тут адцеміць, што як паказывае ўспамінаны ўжо тут Фордаўскі адрысар, зь беларускіх арганізацыяў ды ўстановаў у ЗДА менш як 25% падае ў сваім назове паангельску слова Byelorussia. Усе іншыя маюць Whiteruthenia. Цікава таксама, што ў гэтай справе не зазначаецца ніякай палітычнай груповай розьніцы: і арганізацыі БНР і БЦР у роўнай бальшыні карыстаюцца ахватней назовам Whiteruthenia.

Для паўніні справы трэба тут успомніць пра яшчэ адзін, найменш карыстаны чужамоўны тэрмін — Byeloruthenia. Яго ўжываюць сяньня толькі некаторыя ўкраінскія навукоўцы ды публіцыстыя. Тэрмін гэты, у прыраўнаньні да Whiteruthenia нічога больш пазытыўнага нам не даў, а мае тую загану, што за ім няма ніякай навуковай ні гістарычнай традыцыі, ані амаль ніякага практычнага пашырэньня. Сяньня няма ніводнай беларускай арганізацыі, якая карысталаб з гэтага назову ў ангельскай ці іншай мове.

Сумуючы сучасны стан у справе чужамоўных назоваў Беларусі, мусім сказаць, што існуюць паважныя дадзеныя на тое, што тэрмін White Russia будзе закінугы ў навуковым і палітычным карыстаньні. Тэрмін Byeloruthenia ня мае ніякіх відаў на здабыцьцё большай папулярнасьці, ані ня мае ніякай традыцыі. На полі «спаборніцтва» на будучыню астаюцца як два найпаважнейшыя канкурэнты Whiteruthenia і Byelorussia.

З вышэй пададзенага разгляду відаць ясна, які з апошніх двох тэрмінаў больш адпаведны як з боку навуковай дакладнасьці, так і палітычнай карэктнасьці. Гэтым двом умовам адказывае толькі назоў Whiteruthenia, але не Byelorussia, як дзеля сьведамых вялікадзяржаўных намераў расейскай Масквы прымусова заводжаны пасьля забароны ў Беларусі карыстаньня скрозь у пару «наццэмаўшчыны» чужамоўных тэрмінаў з «Рутэнія». Зразумела, што ўсьведамляючы сабе дакладна, які чужамоўны тэрмін лепшы, мы не павінны з сэктанскай упорыстасьцяй зачыняць сваіх ачэй і на практычны ды рэальны стан рэчаў, ды няраз дзеля гэтага тарнаваць і назоў Byelorussia, але толькі там і тады, дзе ён можа прынесьці нам тую ці іншую карысьць. Пад назовам Byelorussia ўладары Савецкай імпэрыі палічылі сабе карысным увесьці БССР у лік народаўсяброў Задзіночаных Народаў. Пад гэтым назовам яны сяньня выдаюць сваю прапагандную літаратуру аб Беларусі. Мімаволі з сваёю прапагандаю, якая ня мае нічога супольнага з патрэбамі ды карысьцю беларускага народу, яны ўсё-ж у той ці іншай меры пашыраюць гэтым і самую сьведамасьць сьвету аб існаваньні беларускага народу.

Каб вось ня губіць нам таго пазытыўнага, што для нас ідзе і з гэтай варожай прапаганды, мэтазгодным няраз ёсьць падаваць побач з назовам Whiteruthenia і ў дужках назоў Byelorussia, каб нясьведамыя справы чужынцы адразу, бязь ніякага клопату бачылі й усьведамлялі, што пад гэтымі двумя тэрмінамі разумеецца тая самая зямля, той самы народ. Карыстаньне гэтым назовам можа часта быць неабходным і ў дыплёматычнай акцыі нашых дзяржаўна-палітычных рэпрэзэнтантаў. Напр., складаючы для сяброў Задзіночаных Народаў ліст-паясьненьне аб тым, што дэлегацыя БССР ня ёсьць сапраўднаю правамоцнаю ды дэмакратычна выбранаю дэлегацыяю беларускага народу, хіба лепш ужыць на першым месцы назоў якраз Byelorussia, пад якім гэтыя дэлегаты сяньня ў ЗН сядзяць.

Дзеля гэтых-жа мяркаваньняў хіба сяньня на месцы будзе, друкуючы тую ці іншую кніжку аб Беларусі, паангельску, напр., спачатку падаць да ведама тую розную тэрміналёгію, што сяньня існуе, а пазьней, выясьніўшы справу, ужываць ужо толькі аднаго тэрміну: Whiteruthenia. Такім пастунаньнем мы будзем стала пашыраць свой **правільны** чужамоўны назоў, ня губляючы адначасна й тых пазытыўных мамэнтаў, якія паўстаюць зь інфармаваньня заходняга сьвету аб Беларусі бальшавіцкаю Масквою пад назовам іншым, фальшывым, сілком накіданым.

**С. Брага**

# „Віцік Жывіца“

Пад гэткім загалоўкам напісаная повесьць на 310 балонаў Флёрыянам Чарнышэвічам і выдадзеная сёлета Аб'еднаньнем Польскіх Літаратаў і Журналістых у Аргентыне.

Прачытаўшы гэтую кніжку, перадусім насоўваецца пытаньне, чаму аж толькі цяпер Ф. Чарнышэвіч апісаў часы польскае акупацыі на Беларусі ў 1918—1919 годзе, а ляпей сказаўшы, змаганьне Беларусаў за сваю незалежнасьць? Ня менш важным можа быць пытаньне, чаму гэтую кнігу выдала якраз Аб'еднаньне Польскіх Літаратаў і Журналістых у Аргентыне?

Кніга напісаная папольску, але калі-б яе прачытаў Рэймонт або Жэромскі, то напэўна не пазнаў-бы свае роднае мовы. Аўтар гэтай повесьці, Ф. Чарнышэвіч зьяўляецца сам Беларусам і паходзіць з аколіцаў, якія й апісвае (Бабруйшчына), але сяньня дашчэнту спаляшаны. У кнізе выразна праводзіцца прысабечваньне Палякамі змаганьня Беларусаў за сваю незалежнасьць, якое насьветленае так, каб выглядала, што тамашнія людзі фактычна змагаліся за польскую Рэчпаспалітую, але не за Беларусь.

Літаратурная вартасьць гэтага твору даволі мізэрная, каб Аб'еднаньне Польскіх Літаратаў і Журналістых затрачвала свае скромныя фонды на такое выданьне. Дык чым яны, як аўтар, гэтак і выдаўцы, у запраўднасьці кіраваліся пры выданьні гэтае кніжкі?

Зьмест і ідэйнае накіраваньне гэтае кніжкі дае вельмі ясныя адказы на пастаўленае намі пытаньне.

Так як было ўспомнена, уся акцыя адбываецца на Беларусі каля Бабруйска падчас польскае акупацыі ў 1918—1919 г. г. У кнізе выступаюць як галоўныя гэроі: сам Віцік Жывіца, Беларус, каталік, які сябе называе Паляком і змагаецца за Рэчпаспалітую, але такую, каб і Беларусы ў ёй былі роўныя з Палякамі. Ён ня верыць у незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі і выказваецца аб гэтым словамі войта з Горкаў наступна: «Вы-ж самі ведаеце, як ёсьць у нас. Людзі нашыя шануюць сваю мову, але ў вадваяваньне Беларусі, як такое, мала хто верыць». Другі гэрой — гэта Ільюша Каршун, сьведамы Беларус і нацыянальны дзеяч, ну, і паны Любускі і Васілеўскі, адзін граф памешчык, другі шляхціц з засьценку.

Гэтыя тры групы пэрсанажаў змагаліся кажны за сваю ідэю, толькі змаганьне было няроўнае, бо пан Любускі, запраўдны Паляк, заразумелы, араганцкі, нясе сябе высока, а Беларусаў лічыць за хамаў, мае падтрыманьне з боку вайсковых уладаў. Каб пазбавіцца Каршуна, сьведамага Беларуса, зрабіў данос, закідаючы яму, што ён бандыт, злодзей

(Заканчэньне на 7-ай балоне)

# КАЧУЛКА

(Заканчэньне з 4-ай балоны)

ным выглядам — а ўжо-ж, вось дзе бітка! — забірае яго й пушчае качулку зноў: паводля правоў гульні, б'ецца, пакуль не праб'ецца. Ізноў гладка коціцца добра нацэленая качулка. бліскаючы на сонцы сваёй сіняю шалупінай — і раптам засядае ў невялікай, няўгледжанай Васількам ямінцы. Чуецца крык:

— Цур, яёк не мяняць!

Але-ж, гэткае прызнанае права. Васільку робіцца ніякавата. Ах, як-жа ён прабіў! І як гэта ён не заглядзеў гэтае пракуднае ямінкі? А цяперака, так і бач. выб'е нехта ягоную надзвычайную качулку! Ведама, хто ўпусьціць нагоду выйграць гэткае яечка?

Васілька з тугой пазірае, як гульцы. адзін па адным старэнна дабіраюць біткі, цэляць, спрабуюць шчасьця то адсюль, то адтуль. Усе іншыя яйкі забытыя, б'юць адно толькі па Васількавай качулцы, хвалююцца, газардуюць. бягуць наўздагон за біткай, што коціцца, быццам стараюцца памагчы ёй. Андрук пяець над саменькім Васількавым вухам: «Ах, злавіўся, хлопча, стой!» Выб'юць, конча выб'юць ягоную качулку! Вось гэты Андрук і выб'е, як што іншыя праб'юць. І навошта было толькі рызыкаваць гэткім яечкам!

Ды Васількава качулка йшла ня тэю дарогаю, што іншыя яйкі, і таму пацэліць у яе нялёгка. Але што ні раз, то ўсё трапней цаляюць гульцы, усё бліжэй да качулкі біткі — і неўзабаве ўжо з паўтузіну іх ляжыць вакол яе, падахвочваючы біць сюды: не пацэліш у качулку, дык бадай напэўнечкі выб'еш нейкае іншае яечка... Але доля зьлітавалася над Васількам: ніхто ягонае качулкі ня выбіў. Ён борзьдзенька хапае яе, з палёгкаю чуючы сябе пазбаўленым ад небясьпекі, ды кажа:

— Бач, як тут яйкі палеглі! Груд — грудом. Бадай, простай біткай лепш пацэліш. як качулкаю.

Васілька хітруе: пасьля ўсяго, што ён цяпер перажыў, чакаючы з затоеным хваляваньнем на кажнае новае яечка, пушчанае супраць ягонае качулкі, ён баіцца ізноў папусьціць яе ў небясьпеку. Ды работа ў Васількі ня спорыцца, яму робіцца нудна, і, праграўшы колькі яёк, ён пакідае гульню й ленна адыходзіць набок. Вось на панадворак выбягае з двума яйкамі ў руццэ выраслая дзяўчына — спадарычна Верачка й крычыць:

— Вазьмеце й мяне гуляць.

Яе бяруць. Яна борзда прайграе ды ўцякае дадому. Далучаецца да гульні й дзядзька Антось, кравец з таго самага двара. Ён, наадварот, уцэльвае раз-пораз, але выбітыя яйкі дзеліць паміж хлапцоў, што зусім «праставіліся» й мусяць выходзіць з гульні.

— Бярэце! Чаго там...

Але глядзець дакучае яшчэ барждзжэй, чымся дакучыла гуляць бяз качулкі. Васілька цягнецца дадому.

Удома нікога няма, апрача нянькі Вульляны: Сяргейка качае яйкі, а старэйшыя пайшлі ў госьці. Васілька сноўдаецца па хаце, ня ведаючы, за што ўзяцца, падыходзіць да вакна. З суседняга панадворку далятаюць вясёлыя крыкі гульцоў. А што-ж гэта ён? То-ж бо ў яго — качулка, ды яшчэ якая качулка! А праміне тыдзень, пакінуць качаць яйкі — навошта тады будзе Васільку яна. І чаго было цешыцца, выхваляцца ёю, калі ня гуляць. Гэта-ж што выйшла: усе гуляюць, усе радыя. а ён панура сьцеганяецца ды не знаходзіць збыту. Не, трэба ня траціць часу, ня трусіцца, не калаціцца за долю свае качулкі, не пабаяцца рызыкнуць ёю, каб не дакараць пасьля сабе, ня думаць з тугой, што была ў яго качулка, ды нічагуткі ён не патрапіў зь ёю зрабіць.

Васілька канчальна наважваецца ды йдзець гуляць. На панадворку народу яшчэ пабольшала, тутака-ж стаіць і Зося. Васілька падыходзіць да яе і ўшчынае гутарку:

— Гляньце, гэта качулка. У яе наска ад пяткі не адрозьніш, яна й коціцца проста, нікуды ня скруціць; а ўсякае іншае яечка скручвае, куды пятка цягне. Вунь гэнае чырвонае яечка — бачыце, вунь? Яго гэткаю качулкаю можна выбіць, але простым яечкам — ніколі. На трудным месцы ляжыць.

— Выб'ю й простым, — бурчыць, стоячы тут-жа, Андрук.

Васілька зьмярае яго паглядам ад пятаў да галавы й кажа выразьліва:

— Пад'юджваць ня люблю, а ня выбіць.

— Дай паспрачаемся, што выб'ю.

— Давай!

— А абвошта?

— Стаўляй качулку, а я пастаўлю ножык-складанчык, бачыў хіба, яшчэ навюсенькі. Што, няўрокам, здаў?

Адмовіцца нельга — ножык варты качулкі, ды й Зося тутака. Нейкі хлапчына рашчапляе ім рукі, прыгаворваючы: «Цур, ад рашчэпніка ня браць». Андрук покаецца ў сваіх бітках, выбірае, пераходзіць зь месца на месца, вымяркоўваючы, адкуль-бы зручней біць, і нарэшце пушчае бітку; усе сьціхаюць і, не адрываючыся, глядзяць, як яна коціцца далоў, робіць заваротку й стукае ў нацемленае яечка. Чуюцца воклікі:

— Во гэта дык ёмка!

— Вой дык Андрук! Паказаў сябе! Малайца!

— Не задавайся іншым разам, — крычыць нехта проста ў вочы Васільку.

Падавай яечка! — чуецца над вухам Андрукоў голас. Васілька, ня гледзячы, соўгае яму качулку й панура, нянячы пабіты, адыходзіць набок.

Няма качулкі!

Ляснула ўсё, чаго ён чакаў, на што спадзяваўся, з чаго цешыўся! Ляснула якга, бязмэтна й бескарысна — «ні за шыза перайка», як крыкнуў хтосьці з грамады. Было ў руках у яго шчасьце, але Васілька ўпусьціў яго, і яно ўжо ня вернецца. Ах, як трапна йдзець качулка, пушчаная Андруком!

Няма качулкі!

Васілька, зь нікім не разьвітваючыся, паварочваецца і, ціснучыся да муру, ідзець дамоў.

Незахаваны беларускі тэкст з расейскага аднавіў — **С. Смутніца.**



Мяне гэта як сярпом разанула. Паколькі ў маіх руках цяпер асноўныя спружыны культуры ў раёне, дык павінен-жа я наглядаць, каб людзі былі ветлівы, абыходлівы і ня выходзілі зь межаў прыстойнасьці.

Я зрабіў незадаволены выгляд і зьнішчаюча зірнуў на Зізя.

Крэйна зразумела:

— Яго сумазбродзьдзе даўно з глуздоў зьехала! Усё Шкуліку дазволена, усё з рук сходзіць.

Як здалося мне, Крэйна нават мяккімі вачыма, як маці, зірнула на Шкуліка, і мне было зайздросна.

— Не, мае глузды усе дома — адгрызнуўся Шкулік і, нядоўга думаючы, ушчыкнуў Крэйну. Гэты выбрык ён правёў пад акампанімэнт уласнага голасу:

Як мой мілы ушчыкнуў,
Маё сэрца здрыгануў.

Крэйна мякка шляпнула яго па патыліцы. На дапамогу зьявілася і Зоя, якая, відаць, яшчэ раней атрымала ад Крэйны адпаведныя дырэктывы і працавала па мэтаду індывідуальных заданьняў. Не саромлячыся мяне, дзяўчаты ўзялі Шкуліка на рэмус, ірвалі яго за вушы, зь нябывалай актыўнасьцю чапляліся ў яго валосьсе, зь нячуваным зьдзекам адносіліся да яго ружовага твару. У гэтую юнацкую булку яны ўпіваліся, як у памідор.

Але і Шкулік лоўка калатушыў супраціўніц, хапаючы іх за рукі, бязьлітасна шчыплючы, дзе прыдзецца.

Такім чынам, штурхаючыся, рагочучы, ойкаючы і вясёла стогнучы. дайшлі мы да выканкому.

Мая пазыцыя была досыць нявытрыманая. Мне хацелася схапіць гэтага кудлатага хлапчука і расьцягнуць як мыш якую, але прысутнасьць Крэйны стрымлівала мяне. Яна мне была міла, ня гледзячы на тое, што прыймала ўдзел у бясчынствах на вуліцы і дыскрэдытавала савецкага працаўніка.

Добра яшчэ, што на вуліцах пыл вялікі быў, і ніхто ня бачыў нашых учынкаў. На ганку РВК Шкулік спыніўся. Крэйна запытала:

— А хто яшчэ запісаўся?

— Будзе невялікая кампанія, але цёплая. Самыя цікавыя для цябе, Крэйна, людзі...

— Хто-ж гэта?

— У першую чаргу я...

— Ты? Ты заўсёды прылепішся. Безь цябе ніяк нельга.

Шкулік прычыніў адно вока, другім зірнуў на Крэйну, потым на Зою і, як чалавек барахольнага маштабу, шальмоўна падміргнуў. Яны абедзьве засьмяяліся.

Я хацеў пайсьці ў канцылярыю — гэты шылахвост Шкулік выклікаў у мяне паступова ўзрастаючае абурэньне.

Крэйна спыніла мяне:

— А вы будзеце на маёўцы?

— Калі вы будзеце, дык і я.

— Мы з Зояй будзем.

— Добра! Можаце і мяне кааптаваць у склад цёплай кампаніі! — сказаў я Шкуліку. Ён запісаў мяне, узяў грошы і потым пералічыў удзельнікаў:

— Будуць: Торба, Мамон, Гарачы, Юзька Гыля, Сьмятана-Бурчайла з жонкай, Сьвердзялюк, Хвэя бяз жонкі, Самчык, настаўніца Крутарожкава, настаўніца Зазюлька, тэлефаністка Горбік...

— Жанчын можна ня пералічаць. Нас гэта зусім ня цікавіць! — заўважыла Крэйна.

— Зразумела, будуць яшчэ Зычок, Дулянок, Кудлянок і ўся сям'я Галавасьцікаў.

— А багародзіца з сынамі будзе? — запыталася Зоя. Усе пераглянуліся і аж сагнуліся ад сьмеху. Я нічога не разумеў. Крэйна дала тлумачэньне:

— У нас ёсьць такая грандама, якую нехта назваў яшчэ грандотэльдама, а мы завем багародзіцай. У яе тры надта вучоныя сыны: адзін спэцыялісты па сельскай гаспадарцы, другі юрыст, трэйці нейкі дыплямат быў, адным словам, ня людзі, а багі. Яны, сыны, у Маскве і прыехалі сюды, каб усё сваё кодла забраць туды. Нават бабу стагоднюю забіраюць. Досыць жыць тут.

— Як прозьвішча іх? — запытаўся я.

Багародзіца была два разы замужам. Першы раз была замужам за Курыцай, а другі раз за Курапатай. І сыны яе два ад Курыцы, а адзін ад Курапаты. Як Курыца, так і Курапата былі арандатарамі ў пані Більдзюкевічыхі і толькі за арэнду ў год плацілі 15.000 руб.

— Ого-го!

## V. ВУЖ ЗАКАХАНЫ

Вечарам у той дзень быў урачысты сход усіх прафсаюзаў. Я няўхільна працягваў палітыку заваёвы сэрца Крэйны.

Сход быў у клюбе пры нардоме. Клюб быў цесны, на другім паверсе, і ад залі нардому быў аддзелены тонкімі шалёвамі, праз якія добра было чуваць усё, што рабілася ў нардоме. А там у гэты час адбывалася рэпэтыцыя да першамайскага спэктаклю, і людзі, якія прыймалі ўдзел, вываракчвалі ўсе свае вантробы ад наплыву трагічных пачуцьцёў.

— Я заб'ю вас, як сабаку, генэрал! — крычаў нехта на сцэне.

— А-а-а! — задыхаўся другі ад злабы — гэта вы той самы анёл сьмерці, што зьдзекваўся над людзьмі!

На ўзвышшы ў клюбе стаяў засланы чырваньню стол і вакол яго вельмі нізкія лавы.

У прэзыдыюм вызначылі 7 асоб: Крэйна высунула і маю кандыдатуру. Я зрабіў ёй пагрозу пальцам, але з прыемнасьцю пашоў і сеў. У прэзыдыюм абралі яшчэ жанчыну доктара, але яна адгаварвалася.

— У мяне на мястэчку цяжкія нарадзіны, і кажную хвіліну мяне могуць паклікаць.

— Тады і пойдзеце! — не згаджаўся сакратар райкому.

— Не, не і не! — змагалася доктарша. — Я лепш тут каля дзьвярэй сяду.

А сама акушэрцы ціха гаварыла, і я чуў гэта:

— Нялоўка мне, немаладой ужо, ісьці туды, ды сядзець куклай, глядзець на ўсіх.

Якая несьвядомасьць! — падумаў я. Калі мы ўсе селі за стол, дык не адразу змаглі вызначыць сакратара. Пры гэтым лавы не адпавядалі сваёй мэце: над сталом было добра відаць толькі нашы ілбы, а рот, нос і ўсё іншае было схавана ад вока прысутных.

Хацелі мяне вызначыць за сакратара, але я прасіў устрымацца.

Калі ўсё больш-менш супакоілася, і слова далі дакладчыку, я сеў збоку стала і пачаў асьцярожна глядзець на Крэйну. Побач зь ёю сядзеў бухгальтар РВК тав. Лін. Яго я прыкмеціў у рай-

# Пісьмо ў Рэдакцыю

**ПАВАЖАНЫ СПАДАРУ РЭДАКТАРУ,**

Калі ласка, надрукуйце ў «Бацькаўшчыне» наступны мой ліст.

Прыпадкам лучыў мне № 2 (8) (зь лютага 1953 г.) часапісу «Незалежная Беларусь», пашквільнага «воргану беларускага вызвольнага руху», каторы ёсьць, як ведама, экспазытураю Радаслава Астроўскага. У гэтым нумару «Н. Б.» надрукаваны ліст Р. Астроўскага з мэтаю паганьбіць маё добрае імя. Я мушу ладне зацытаваць із гэнага лісту, каб паказаць, чаго ён варты.

Пан Астроўскі піша:

«17 сьнежня 1942 г. я (зн., Астроўскі) ...зайшоў зь візытаю і да кс. В. Гадлеўскага... **У той час кс. В. Гадлеўскі быў Школьным Інспэктарам Генэральнага Камісарыяту Беларусі»...**

«Пры гэтым ён (Гадлеўскі) мне (Астроўскаму) сказаў, што найбольшы клопат мае з др. Янкам Станкевічам, які стала даносіць на яго Юрдзе (Юрда — гэта начальнік, здаецца, палітычнага аддзелу Генэральнага Камісарыяту)».

«Прыймаючы пад увагу, што д-рам Ермачэнкай на 6-ую гадзіну вечара таго-ж 17-га сьнежня было назначана, у сувязі з маім прыездам, паседжаньне беларускага актыву, сябрам катарога я (Астроўскі) быў, я прасіў кс. Гадлеўскага падняць гэтую справу на паседжаньні актыву».

«На паседжаньні кс. Гадлеўскі публічна заявіў, што др. Янка Станкевіч, які быў так-жа прысутны на гэтым паседжаньні, стала робіць на яго — Гадлеўскага даносы акупацыйным уладам. Др. Я. Станкевіч не запярэчыў гэтаму, а пачаў апраўдаваць сваё паступаньне «нягодным», як ён сказаў, паступаньнем Школьнага Інспэктара ды яшчэ больш **нягоднаю палітыкай** Генэральнага **Камісарыяту.** Пры гэтым вывязалася спрэчка паміж кс. Гадлеўскім і др. Я. Станкевічам, які **ў вельмі грубай форме выказваўся** так супроць кс. Гадлеўскага, як і **супроць Генэральнага Камісарыяту.»**

«На наступны дзень у поўдзевятай гадзіны раніцаю на маю кватэру (на Ленінградзкай вул. нр. 5) зьявіўся ў партыйнай уніформе чыноўнік Генэральнага Камісарыяту г. Сівіца і спытаўся мяне ці праўда, што ўчора на зборцы беларускага актыву **др. Я. Станкевіч вельмі востра выказваўся пад адрасам Ген. Камісарыяту? Пры гэтым Сівіца паўтарыў мне дасլоўна тое, што гаварыў др. Я. Станкевіч.** Зразумеўшы, што тут нешта дзеецца нядобрае, што сярод актыву ёсьць нейкі „сэксот" ген. камісарыяту, я (Астроўскі) запярэчыў гэтаму і сказаў, што ён мыляецца, што не супроць камісарыяту выступаў і гэтак гаварыў др. Я. Станкевіч, а супроць Гадлеўскага, зь якім, відаць, у яго ёсьць нейкія непаладкі».

«Такі адказ мой (Астроўскага) вельмі не спадабаўся Сівіцы і ён сказаў: **„Я (Сівіца) маю дакладныя даныя, што Я. Станкевіч гэта гаварыў супроць Ген. Камісарыяту,** а вы яго бароніце і ня хочаце мне гэта пацьвердзіць".»

На наступны дзень 18. XII. 1942 г. у 6 гадз. увечары — піша Астроўскі — было другое паседжаньне тых самых асобаў, на каторым «я (Астроўскі) падрабязна расказаў усім прысутным аб тым, што здарылася, а з чаго вынікала, што адзін з нас не ў парадку, **бо-ж Сівіца дасլоўна мне паўтарыў словы др. Я. Станкевіча, выказаныя ім пад адрасам Ген. Камісарыяту... пасьля мае (Астроўскага) прамовы... кс. В. Гадлеўскі сканфужана ўстаў і сказаў: „Mea culpa, mea maxima culpa!, але я зьяўляюся ўрадоўцам Ген. Камісарыяту і лічыў сваім абавязкам аб гэтым сказаць".»**

Я, пераканаўшыся, што ніхто не павера цьверджаньням Астроўскага, каб кс. В. Гадлеўскі калі-колечы мог сказаць, што я яго ўдаваў Немцам. Усе ведаюць, што я на таковыя рэчы ня здольны. Ведае гэта добра і сам Астроўскі. Пішу гэты ліст, каб паказаць, якімі немаральнымі сяродкамі карыстаецца пан Астроўскі ў ходаньню із сваімі праціўнікамі. Я ані ня дзіўлюся, што Астроўскі **такі** ліст напісаў; але я не спадзяваўся, што ён напіша яго так не прадумана, так дурна.

Ня мае значэньня тое, што Астроўскі, як сам піша, будучы ў Менску праездам із Смаленску ў Баранавічы, меў у Менску сваю гасподу (кватэру), бо мог ён мець шмат гасподаў, у кажным месьце.

Астроўскі піша, што на паседжаньню 17 сьнежня 1942 г. я крытыкаваў нямецкі Генэральны Камісарыят, завучы яго палітыку нягоднай. (Хто-бы гэта паважыўся зрабіць у быцьцю Астроўскага?) Адылі, як ясна вынікае зь ягонага лісту, я сам сябе ўдаў Ген. Камісарыяту, паведаміўшы яму пра сваю крытыку. Я ніколі ня зьбіраўся быць самаўбійцам, дый яшчэ такім дзівосным спосабам.

А што да гэнае быццам заявы кс. Гадлеўскага: «Mea culpa, mea maxima culpa, аб гэтым сказаць», то няго-ж абавязкам **ураднікa** нямецкага Ген. камісарыяту Беларусі было вінаваціць перад **Беларусамі,** Беларуса ў тым, што ён удаець яго Ген. Камісарыяту?

Проста дзіва з такога пісаньня. Няго-ж пана Астроўскага так раптам паніжылiся здольнасьці ў пашквілянцкім прасьцінку? Гэта трэба было-б вітаць, бо тады на 75% зьменшылася-б «бесаўскае» дзейнасьці (маю наўвеце «Бесы» Дастаеўскага).

Я канстатую, што ў сьнежню 1942 г. кс. В. Гадлеўскі ня быў галоўным школьным інспэктарам і ня быў ніякім іншым урадніkам. Яшчэ за доўга да ягонага арышту галоўным школьным інспэктарам быў др. Скурат.

Астроўскі ня піша, хто апрача яго, др. Я. Ермаченкі, кс. В. Гадлеўскага й мяне быў на гэных паседжаньнях 17 й 18 сьн. 1942 г. Я ня ведаю, ці былі тады якія паседжаньні з учасьцем кс. Гадлеўскага й Астроўскага; я на іх ня быў, калі яны й былі. Я быў выехаўшы зь Менску ў падарожжа яшчэ перад 15 сьнежням 1942 г. Было гэтак. Нямецкая акупацыйная ўлада пастанавіла заміж кірыліцы ўвесьці — ведама прынукаю — лацініцу, як агульны й адзіны беларускі альфабэт. Аргумэнты супроць гэтае пастановы я падаў на пісьме Ген. Камісарыяту цераз др. Ермачэнку (быў тады загад акупацыйнае ўлады ўсім чыста зварочавацца цераз яго, як кіраўніка «Беларускае Народнае Самапомачы»), а другі эгзэмпляр, дзеля пэўнасьці, я аддаў беспасярэдне Ген. Камісарыяту (на рукі Сівіцы, што спаўняў ролю міністра асьветы ў Менску). Не зважаючы на гэта, у Ген. Камісарыяце ўважалі, што я, як беларускі лінгвісты, павінен ехаць у Бэрлін і там разам із нямецкім лінгвістым, праф. Фасмэрам, прыгатаваць праект рэформы беларускае лацініцы. Я быў супроць рэформы, але ўважаў карысным выказаць і Фасмэру свае аргумэнты ў справе беларускага альфабэту.

Свае падарожжа, як спэцыялістага, да Бэрліну я пастанавіў выкарыстаць, каб дастаць дазвол на падарожжа да Летувы, дзе я, уцякаючы ад бальшавікоў у чырвені 1940, быў пакінуўшы рукапіс сваіго слоўніка, і заехацца да Прагі даведацца да свае сям'і. Так і сталася. Загадзя выехаўшы, я знайшоў на летувіскім сяле свой рукапіс, па дарозе да Бэрліну задзержыўся на колькі дзен у Варшаве, дзе, між іншага, бачыўся з кеяндзом П. Татарыновічам, у Бэрліне колькі разоў сустракаўся з Фасмэрам ды бачыўся з тамашнімі Беларусамі і 23 сьн. быў у Празе.

Зацемлю гэтага, што Астроўскі, даведаўшыся, узімку 1944—45 г., да свае дачкі ў Празе, казаў мне, што ўстаноўлена, што гэта праўда, бо, калі Астроўскі выдумляе пра мяне, то мог выдумаць і пра др. Ермачэнку.

Менаваўшы гэтага праф. Фасмэра, хачу зацеміць, што ён аказаўся станаўкім працаўнікам гітлераўцаў, ён казаў мне, што «сярод нацыстых няма інтэлігенцыі» (пад інтэлігенцыяй ён, відавочна, разумеў запраўдных інтэлектуалістых), гаварыў, што павіннасьцяй нямецкіх прафэсараў бараніць ад нацыстых інтэлігенцыю паняволеных Немцамі народаў і што ён абараніў якогась выдатнага Нарвэга. Мы таксама былі згодныя зь ім і што да беларускае абэцэды. Ён казаў, што ўжо пісаў нацыстым, што няхай Беларусы ўжываюць той альфабэт, які яны маюць, зн. кірыліцу. Калі яму заявілі, што ўвядзеньне лацініцы ўжо пастаноўлена і застаецца толькі яе рэфармаваць, то ён адказаў, што ня трэба рэфармаваць. Мы згадзіліся, што ён перадасьць нямецкай уладзе супольны наш пагляд, што беларуская лацініца рэформы не патрабуе.

З высокай пашанаю

**Я. Станкевіч**

*

**Ню Ёрк, 5 мая 1953.**

P. S. У тым-жа нумару «Незалежнае Беларусі» нейкі Г. Самотны ў дзівосным артыкуле «Мае ўспаміны аб сьв. памяці кс. В. Гадлеўскім» на бач. 4-ай, між іншага, піша, што «др. В. Тумаш і др. Янка Станкевіч сваімі подпісамі пацьвердзілі праўдзівасьць Берутаўскай споведзі з зазначэньнем, што **яны ручаюцца, акром таго, за яго самыя лёяльныя адносіны да нямецкіх уладаў і да ідэі Гітлероўскае «Новае Эўропы»** (падчыркн. Самотнага). Ня кажучы ўжо пра тое, што маё ручаньне, як ня супрацуючага зь нямецкай акупацыйнай уладаю, ня мела-б значаньня, я асабіста ня знаў Берута і, ведама, ніякімі подпісамі нічагусенькі яму не пацьвярджаў. Пісаньне пра гэта Самотнага ёсьць чыстай выдумкаю. Загадчыкам гаспадарскага аддзелу менскае рады і беспасярэдняй Берута быў Яўген Малевіч, русыфікатар і сябра так зв. зарубежніцкае (русафільска-русыфікатарскае) арганізацыі. Ад Малевіча можна было неаднойчы чуць, пахвалу, што Берут «хоць і Паляк, але добры працаўнік.»

**Я. Станкевіч**

# „Падтрыманьне паняволеных"

Пад вышэйшым загалоўкам часапіс «Нью Ёрк Джурналь Эмэрыкэн» 27 красавіка надрукаваў артыкул Баб Кансайдына, у якім ён дае сваю ацэну ўнесенай у кангрэс прапанове кангрэсмэна Сміта пра ўстанаўленьне з боку ўраду ЗША нармальных дыпляматычных дачыненьняў зь Беларускай і Украінскай савецкімі рэспублікамі, пра што мы ў свой час шырэй пісалі ў нашай газэце. На думку аўтара, гэта выдатны спосаб для падбухторваньня ці навет вызвольваньня народаў, паняволеных бальшавізмам. Ён між іншым піша:

**«Гэта задэманстравала-б амэрыканскі інтарэс у двух няўстабілізаваных і неспакойных раёнах у савецкай імпэрыі. Мы сапхнулі-б Расею ў кут. Крэмль любіць крычаць, што Украіна і Беларусь ёсьць незалежнымі рэспублікамі, і ўпхнуў іх на асобныя месцы ў ЗН. Калі-ж Расея не захоча ў „незалежныя" рэспублікі прыняць паслоў із ЗША, то іхнае рабства будзе паказана перад усім сьветам, а ўсе антыкамуністыя ў сярэдзіне іх будуць адчуваць сябе пэўней.**

**Гэта быў-бы мірны захад з боку ЗША і зварот да народаў дзьвюх дзяржаваў, якія глядзелі-б на нас, а не на Маскву... Калі-ж-а гэтае законнае вымаганьне ня было-б прынятае, то ЗН мелі-б выгнаць украінскіх і беларускіх дэлегатаў, як самазванцаў».**

# Людзі адгукнуліся

Наш заклік да Беларусаў на эміграцыі не дазволіць шчэзнуць магілцы сьв. памяці Лявона Байдалава пачула Жаночае Згуртаваньне ў Аўстраліі, якое правяло на гэтую мэту зборку з вынікам 10.11.0. фунтаў,

Ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| 1. Сп-ня Аляксандра Чабатар | 1. 0.0. |
| 2. Сп. Янка Гавенчык | —.10.0. |
| 3. Сп. Юры Яцкевіч | —. 5.0. |
| 4. Сп. Анатолі Галіда | —.10.0. |
| 5. Сп. М. Каржанеўскі | —.13.0. |
| 6. Сп. Рамановіч | 1. 0.0. |
| 7. Сп. П. Паўлюкевіч | —. 8.0. |
| 8. Сп. М. Б-к | 10.0. |
| 9. Сп. Уладзімір Калесьнікавіч | 2. 0.0. |
| 10. Сп. Дзяніс Мацякаў | 1. 0.0. |
| 11. Сп. Станіслаў Паўлавец | —.10.0. |
| 12. Сп. Мікола Кавалеўскі | —.10.0. |
| 13. Сп. Мар'ян Дарушэвіч | —. 5.0. |
| 14. Сп. Аляксандар Садоўскі | 2. 0.0. |
| 15. Др. Анатоль Бразоўскі | 1 ам. даляр. |

Зроблены добры пачын, гэта сума становіць ужо трэцюю частку патрэбных на гэтую мэту грошаў.

Але скуль узяць рэшту?

Дык узноў зварочваемся да нашага сьведамага грамадзтва: дапамажыце!

Ня можам забывацца нашых абяздоленых нявыэміграваўшых суродзічаў, але-ж і ня можам дазволіць. каб зраўняліся зь зямлёй, зарасьлі пустазельлем, ці былі спаняверааны косьці нашых людзей. змагароў за ўсё той самы няўміручы і сьвяты ідэал — незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны.

Дазвольце, дарагія суродзічы, заапякавацца, пры Вашай шчырай дапамозе ўсімі магіламі памершых адзінокіх нашых суродзічаў, якія спачылі ў чужой зямлі, праўда ў Эўропе, але ўсё роўна далёка ад родных межаў. Пачынам у гэтай акцыі ўпарадкаваньне магілаў нашых выгнанцаў, у першую чаргу жаўнераў, няхай будзе магіла Лявона Байдалава.

Няхай спыніўшыся пры ей прыпадковы праходжы-чужынец зможа адчытаць, што гэты чалавек аддаў усё, што меў сваей Радзіме: жыцьцё сваіх двух сыноў-жаўнераў беларускіх вайсковых фармацыяў і сваё собскае.

Няхай адчытае ён, што Беларусы ўмеюць паміраць, каб жыла іх Бацькаўшчына, і што Бацькаўшчына іх жыве і будзе жыць паміма найбольш жорсткага тэрору камуністага-чужынца.

Няхай адчытае ён, што Беларусы памяць сваіх паўшых шануюць і аб іх памятаюць, аб чым сьветчыць вось гэты сьціплы памятнік з шэрага граніту — трывалы, цьвёрды, моцны і прыгожы, як змагарнае жыцьцё беларускага жаўнера.

Ахвяры просіцца слаць на адрас Жаночага Згуртаваньня ў Нямеччыне.

**З. С.**

# Хор «Думка» у Монтрэалі

Зазьвіні ты, як звон,
І удар, як пярун,
Песьня наша, як воля магучая...

Янка Купала.

Старая, старая легенда кажа: Усемагутны Бог, раздаючы таленты ўсім народам, забыў-мінуў беднага Беларуса, які ціхенька стаяў у куточку. Калі-ж той нясьмела прыступіў і запытаў: «Божа, а што-ж мне дасі, майму народу?» Бог адказаў: «Даю табе песьню, няхай яна будзе табе ўсім — радасьцю ў горы, зброяй у руках, выявам смутку, жалю, шчасьця, тугі, каханьня». І так сталася. Беларус уклаў у сваю песьню ўсё: душу, шчырасьць, адвагу. Нядарам-жа ворагі нашыя, бачучы небясьпеку ў беларускай песьні, стараліся вырваць яе, прысвоіць сабе. Беларус моцна дзяржаў, дзяржыць і будзе дзяржаць сваю песьню, бо гэта Богам дадзены скарб.

У слаўную мінуўшчыню наш народ апяваў нашую славу і магутнасьць. Беларусы зь песьняй ішлі ў бой, зь песьняй паміралі, зь вясёла-пераможнай песьняй вярталіся пасьля перамогі, з сумна-жаласнай пасьля няўдачы. Але зь песьняй... Прыходзяць часы паняволеньня. Колькі-ж тут жалю за мінуўшчыняй, колькі тугі й гора, колькі ненавісьці да прыгнятальнікаў? Усё ў песьні. Пасьля адраджэньне. А колькі-ж зложылася песьняў за гэны кароткі час! І ўзноў паняволеньне, выгнаньне. Ворагі нашы адабралі, вырвалі ад нас усё, нашую мінуўшчыню, нашую зямельку. Аднаго толькі не змаглі яны вырваць — нашай песьні!

Вось нашая галоўная зброя выгнанцаў на чужыне. Веліч і вагу сваей песьні зразумелі й Беларусы ў Монтрэалі, зарганізаваўшы мужчынскі хор «Думка». І тут яшчэ адно. «Думка» — гэта злучаны беларуска-украінскі хор. Тут дружба між братнімі народамі выявілася не на славах і прыгожых сказах, але на дзеле. Украінскі народ, абдараваны Богам тым-жа самым талентам — песьняй, пераўжыўшы ўсё тое, што й Беларусы, ваюе гэтай зброяй-песьняй на выгнаньні. Зразумеўшы важнасьць гэтага змаганьня, прадстаўнікі абодвых народаў злучылі гэтую зброю. «Б'юць у сэрцы мячамі» сваіх і «не даюць чужынцамі быць». «Б'юць у сэрцы» чужых — расказваюць пра сваю слаўную мінуўшчыню, пра сваё гора і крыўду, якая так несправядліва пануе над нашай зямелькай.

Хор мае 28 сьпевакоў. Галасавы склад вельмі добры. Пачынаючы ад першых тэнараў, а канчаючы другімі басамі — гэта малады, яшчэ ня высьпеваны матарыял. Усе партыі выраўнаныя, дамінуе часамі першы тэнар. Было-б пажаданым, каб хор пастараўся прыдбаць яшчэ хаця аднаго добрага контр-баса. Рэпэртуар хору напалавіну беларускі, напалавіну ўкраінскі. Зь беларускага рэпэртуару выконваюцца рэчы пераважна кампазыцыі М. Равенскага і А. Карповіча. Крыху сумнавата, але праўдзіва. На вялікі жаль хор ня мае песьняў іншых нашых кампазытараў, хаця й стараўся іх дастаць.

Хор «Думка» выступаў ужо на пару канцэртах, з гэтага на сьвяце 25 Сакавіка, якое адбылося ў дзень 29 сакавіка ў Монтрэалі. Выступаў таксама і ў радыё і насьпяваў тры песьні на грамафонныя пліткі. Трэба толькі матарыяльнай дапамогі, каб пашырыць і распаўсюдзіць гэтыя пліткі. Канчаючы гэтых пару слоў, я зьвяртаюся з гарачай просьбай да нашых паважаных кампазытараў памагчы сваімі творамі да пашырэньня рэпэртуару хору.

**П. С.**

## ДА НАШЫХ ПРАДСТАЎНІЦТВАЎ

**Новая Адміністрацыя «Бацькаўшчыны» правяла кантролю залегласьцяў за газэту ўсіх тых падпішчыкаў, якім газэта, як звычайнай, гэтак і лётніцкай поштай высылалася індывідуальна, і ўстанавіла, што многія зь іх маюць вялікія залегласьці, а некаторыя, у тым ліку й ведамыя беларускія палітычныя й грамадзкія дзеячы, зусім не плацілі за газэту, наражаючы гэтым Выдавецтва на вялікія страты. Усім гэтым асобам, пачынаючы зь мінулага нумару, мы спынілі высылку газэты.**

**Усіх нашых паважаных Прадстаўнікоў паза Нямеччынай паўторна просім спыніць, пачынаючы з наступнага нумару, высылку газэты ўсім, хто ня ўрэгуляваў належнасьці, або зусім за яе ня плаціць. Гэтае мерапрыемства настойліва просім правесьці КАТЭГАРЫЧНА І З УСЕЙ ДАКЛАДНАСЬЦЮ.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Заклік

**Беларусы! Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Бэльгіі зьвяртаецца з гарачым заклікам да Вас усіх, так як і да ўсіх беларускіх арганізацыяў на чужыне, прыйсьці з грашоваю дапамогаю ў пабудове памятніка на магіле кампазытара**

**МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА**

**Сваей музыкай і песьняй Нябошчык стварыў сабе несьмяротны памятнік у сэрцы беларускага народу. Скромным выражэньнем нашае пашаны да сьветлай памяці Нябошчыка ёсьць выстаўленьне памятніка, які ня даў-бы зацерціся Ягонай магіле, бо ўспамін аб Ім будзе вечна жывым між намі.**

**Грашовыя ахвяры просім перасылаць на наступны адрас:**

**M. St. Mak, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**

**Старшыня Каардынацыйнага Камітэту**
**А. ЗАНКОВІЧ**

## ДА ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ

**Дзеля адзначэньня дваццатай гадавіны сьмерці замучанага бальшавікамі выдатнага беларускага паэты Уладзімера Жылкі, Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» моцна патрабуе знайсьці на чужыне зборнік ягоных вершаў «На ростані», выдадзены ў Вільні ў 1924 годзе, дзеля скап'яваньня некаторых, зьмешчаных у ім, вершаў. Калі-б хто-небудзь з нашых суродзічаў меў гэты зборнік або ведаў, хто яго мае, просім ветліва па магчымасьці як найхутчэй паведаміць аб гэтым Рэдакцыю «Бацькаўшчыны». Зборнік можа быць скап'яваны самой Рэдакцыяй і ў належным стане і безадкладна зьвернуты назад, а можа яго таксама скап'яваць сам собсьнік, калі баіцца, што падчас перасылкі поштай мог-бы ён загінуць у дарозе.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**



# Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны"

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:** Mr. Borysevic, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:** The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.
3. **У Францыі:** Будзе пададзена ў наступным нумары.
4. **У ЗША:** Mr. B. Danilovich, 222 Suydam St. New Brunswick, N. J. U.S.A.
5. **У Канадзе:** Mr Navicki, 142 Gladstone Ave Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:** Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:** Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:** Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:** Mr. Karanieuski Marian, 88, Hercules Drayve, Roxburgh-Hydro New-Zealand.